# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 29 (1523) ГОД XXX БЕЛАСТОК 21 ЛІПЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.

ПЯЦЬ ДЗЁН У ГАСЦІНЕ

## ПАЎДНЯ НА ЛІТВЕ

Не толькі па каляроваму табло з гербам і надпісам Lietuvos Tarybu Socialistine Respublika пазнаем, што мы ўехалі на тэрыторыю паўночнай суседкі Беларусі. Хоць паабапал шашы плывуць такія ж, як на Гродзеншчыне, пагоркаватыя палі пад дружнай збажынною ды грыбныя бары з ядлоўцавым падлескам і бахматым верасам, але вось ужо замільгалі дарожныя ўказальнікі на літоўскай і рускай мовах. Кідаецца ў вочы таксама адметнасць у стылі новага вясковага будаўніцтва: пераважаюць абшырныя мураваныя дамы з чатырма шчытамі і дахам пад чырвонай дахоўкай ці шэрым азбестам. Прытым мне здаецца, жыллёвае будаўніцтва ў вёсцы на Літве ідзе яшчэ больш інтэнсіўна, чым на Беларусі; мы не сустракалі вёскі, у якой не красавалася хаця б па некалькі новых дамоў ці не было відаць рыштаванняў іншых пабудоваў. На пашах таксама гусцей ад жывёлы, і часценька нам даводзілася любавацца красачнымі вясёлкамі ў фантанах штучнага дажджу з магутных арашальных абсталяванняў. І мне ўспомніліся словы, сказаныя напярэдадні І сакратаром В. І. Казяком, што Шчучынскі раён супрацоўнічае з суседнім Варэнскім раёнам на Літве і

(Працяг на стар. 4)



Велічная фігура Смуткуючай Маці.

Хочаце ведаць, як гэта было сорак гадоў назад, у канцы вайны? Цяжка, ох цяжка. Наш спецыяльны батальён штурмавога палка, гэта значыць другі батальён шаснаццатага палка 364 дывізіі, першым уварваўся ў Берлін. Нас, пецярых салдат Савецкай Арміі, апынулася ў будынку сярод немцаў. Дым, грукат, проста пекла на зямлі. Я пяць сутак не спаў. Нямецкія кулі сякуць па нагах. Кідаю гранату („лімонкай" звалі). Бачу на сцяне людскі мозг... Немцы кінуліся ўцякаць. Чую боль у нагах, не магу падняцца, падаю... Калі ачуняў, вакол ціха, ляжу сярод развалін. Нага мая крывавіць. Перавязаў. Вылез неяк на вуліцу і сяджу. Пад'ехала машына, а ў ёй Жукаў, так, так, маршал Жукаў. Пытае мяне: „Што, ранен, салдат?". „Да, таварыш маршал", — гавару. Узялі мяне ў шпіталь, васемнаццаць кіламетраў ад Берліна, здаецца, гэта быў горад Матабург. Там даведаўся я пра капітуляцыю фашыстаў. Але не меў сіл, каб радавацца. Думаў: „Добра, нарэшце не трэба будзе біцца". У гэтым шпіталі апекавалася мною Анна, потым яна стала маёй жонкай. Яна з Бельска. дык сюды мы і прыехалі жыць пасля вайны. Тут і жыву, а яна памерла ўжо. На сцяне гэта наш партрэт: маладыя былі тады. Цяпер Марыя жыве са мной.

## ЦЯЖКІ ЎСПАМІН

Сёння праваслаўнае свята і яна паехала ў сваю вёску, да сям'і. Жывём у гэтым „вагоне", так кватэра мая выглядае: доўгі пакой, адно акно — як вагон. Столькі я сабе наваяваў. Ох, і наваяваўся ж я ў вайну. Маю медалі ад Сталіна — „За отвагу". Ёсць гэтых медалёў: польскіх і савецкіх. А гэта Крыж Кавалерскі Ордэна Адраджэння Польшчы. Я ваяваў у Савецкай Арміі. У Берліне меў польскі сцяг, а камбат пытае, чаму польскі. Высняю яму, што я сам паляк, Аляксандр Парэйка. Нарадзіўся ў Варшаве. Быў сіратой і выхаваўся на Навагрудчыне, сярод беларусаў. Добры гэта народ, чалавек не прападзе, у бядзе памогуць. Таму я гавару па-беларуску. У саракавым годзе працаваў я ў савецкай адміністрацыі, а потым разам з іншымі ўцякаў ад немцаў: Смаленск, Арол, Масква. Затрымалі гадзіну. У сорак трэцім быў скінуты ў дэсанце пад Баранавічамі да партызан. Ваяваў у Першамайскай партызанскай брыгадзе на Беларусі, пад Гроднам, пад Бярэзіной, у Налібоцкай пушчы. Потым ужо ў арміі на фронце. Прайшоў цэлую Польшчу на захад, аж да Берліна. Цяжкая гэта была дарога, але чалавек не баяўся. Трэба было біць ворага без літасці. Даўно гэта было, але многае па-

(Працяг на стар. 6)




### АБ ПАЭЗІІ „БЕЛАВЕЖЦАЎ"

Пісаць рэцэнзію на творчасць „белавежцаў" я не збіраюся — замала адукаваны. Аднак хацелася б падзяліцца думкамі з такімі, як я, чытачамі „Нівы" аб гэтай творчасці.

Вядомы нам усім Барскі ў сваёй публікацыі „На мяжы" аж у васьмі (калі не памыляюся) „Нівах" узнімаў праблему папулярнасці ды папулярнасці „белавежцаў". Аб сабе А. Барскі не клапоціцца, бо ён свядомы таго, што яму папулярнасці хоць адбаўляй. Яно сапраўды, А. Барскі-Баршчэўскі — гэта індывідуальнасць вельмі папулярная і не толькі на Беласточчыне.

З паэзіяй А. Барскага я пазнаёміўся праз „Ніву". Лічу, што ў лірычных яго творах замнога эротыкі. Напрыклад, яго верш „Давай яшчэ раз затанцуем". Ну, а эпілог гэтага танца: „Пакоцімся і сплодзім сына". Дзіўна! Адкуль такая ўпэўненасць? А можа будзе дачка? А яшчэ калі пры такім вершы паявіцца здымак прыгожай, голай жанчыны, то тут не адзін малады чытач, наўзіраўшыся, гатоў крыкнуць: „Трымайце мяне!" Але жарт на бок. Паверце старому: праўдзівае каханне не ведае эротыкі (ад Эроса).

Папулярнасць А. Барскага-Баршчэўскага выплывае з многіх крыніцаў, гэтага вылічваць няма патрэбы. Адзін фрагмент у яго заслугоўвае на ўвагу, які характарызуе ўсіх вялікіх паэтаў. Менавіта, Барскі гаворыць, што ён можа кінуць усё, толькі не паэзію. („Аб цане папулярнасці" частка II). Гэта пахвальна! Гэта прыпамінае і Ясеніна („Отдам всю душу октябрю и маю, но только лиры милой не отдам"). Падобна гаварыў слаўны Рабіндранат Тагор („О счастьи и несчастьи песни слагая, быть может я бессмертьем осенюсь").

А цяпер аб творчасці, „змушаючай да мыслення". Да гэтай творчасці трэба залічыць творчасць Н. Артымовіч, Ваву і іншых. Многа я патраціў часу, прабуючы расшыфраваць гэтую творчасць і — без выніку. Аднак ёсць людзі, якія яе разумеюць і нават ёю захапляюцца. Няўжо я такі ёлуп? Усё можа быць.

Нядаўна памёршы вядомы польскі паэт і сатырык Мар'ян Залуцкі — вялікі праціўнік гэтакай творчасці — нават прысвяціў верш творчасці, „змушаючай да мыслення", пад загалоўкам „Zwierzenia autora". Вось малы яго фрагмент: „Autor

(Працяг на стар. 4)

# НА МЯЖЫ

## АБ ПРАМІНАННІ (VI)

Здаецца мне, што найбольш драматычным і недарэчлівым аспектам праміnання з'яўляецца тое, што патрапіць яно ператварыць каханне ў нянавісць. Колькі ж было на гэтым свеце маладых людзей, смяртэльна закаханых, такіх, якія не могуць адно без другога пражыць нават адной гадзіны, такіх, якія дзе трэба і не трэба дэманструюць гарачую прывязанасць і вечнае аданне. І вось у такую цудоўную і, здавалася б, вечную з'яву ўмешваецца бессаромнае праміnанне і пакідае з вялікага кахання малую жменьку попелу. Тыя, хто кахаў і спяваў свайму пачуццю гімны, лічачы яго вечным, пераходзяць у стан зусім супрацьстаўны — нянавісць.

Калісь я сустрэў адну беларускую паэтэсу, якая толькі што выйшла замуж. У сувязі з тым, што яе каханы зваўся Дзмітрый, паэтэса пачала называла яго „князем Дзмітрыем". Пасля я даведаўся, што „князь Дзмітрый" умеў быць удзячны і сваю жонку называў княгіняй.

Калі я сустрэў паэтэсу гадам ці двума пазней, яна аб сваім „князі Дзмітрыю" адазвалася менш высакародна, назвала яго „звычайнай свіннёю" і баста. Аб чым гэта сведчыць? Аб тым, што і тут умяшалася па-свінску праміnанне і зрабіла сваю паскудную работу, ператвараючы каханне ў нянавісць, захапленне ў пагарду. І як жа многа такіх маладых людзей, якія з рыцараў кахання, вернасці, адданасці ператвараюцца ў рыцараў нянавісці і здрады, а іх інспіратарам стаў ніхто іншы, як звычайны штодзённы час. Гэта ён намі маніпулюе, гэта ён нас змяняе, гэта ён выкрадае хітра з нашых сэрцаў каханне, напаўняючы іх нянавісцю. Так, толькі час з'яўляецца нашым галоўным панам, бязлітасным валадаром, які з выключным уменнем і мастацтвам робіць з лепшага горшае.

Зразумела, што амаль ніхто з нас не здольны прызнацца, што эвалюцыя, пераход дабра і высакароднасці ў зло і эгаізм датычаць не толькі іншых, але і нас. Вельмі ахвотна такую эвалюцыю мы звязваем з іншымі і вельмі неахвотна з сабою. Тым часам гэты працэс, якім, як вядома, кіруе час, датычыць нас у такой самай ступені, як і іншых.

Аргамадны сусвет і малая пясчынка, геніяльны чалавек і безразумнае, здавалася б, насякомае, усе і ўсё ў адносным ступені падлягае законам праміnання, якіх нельга ні абыйсці, ні ашукаць, ні затрымаць.

Найгоршы выхад з гэтага факта — істэрыка, нервы, абурэнне. Такая рэакцыя, зрэшты, характэрная толькі для чалавека, не толькі не ліквідуе выніkаў праміnання, але іх паглыбляе і пагаршае стан таго чалавека, які не ўмее захаваць адпаведнага спакою духа.

Здаецца мне, што перад аблічам таго страшэннага „бессаромніка", якім ёсць праміnанне, толькі стаіцкі спакой з'яўляецца паставай годнай і ўласцівай. Вечнасць чалавецтва на зямлі выяўляецца ў хвіліннасці чалавека. І хаця існуе ён на зямным шары ўсяго імгненне, то павінен паводзіць сябе так, як бы меў жыць на ёй вечна. Цэлыя тысячагоддзі.

**Алесь Барскі**



# Біяграфія новага Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
## АНДРЭЯ ГРАМЫКІ

Андрэй Грамыка нарадзіўся 18.7.1909 г. у вёсцы Старыя Грамыкі Гомельскага павета Магілёўскай губерні ў сям'і селяніна-бедняка. Адукацыя вышэйшая — у 1932 годзе скончыў эканамічны інстытут, затым — аспірантуру Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута эканоміі сельскай гаспадаркі. У 1936-1939 гадах працаваў старшым навуковым супрацоўнікам і выконваў абавязкі навуковага сакратара Інстытута эканоміі Акадэміі навук СССР. Доктар эканамічных навук. Мае навуковыя працы.

З 1939 года Андрэй Грамыка знаходзіцца на дыпламатычнай рабоце. Быў загадчыкам аддзела амерыканскіх краін Міністэрства Замежных Спраў СССР, саветнікам пасольства СССР у ЗША, у 1943-1946 гадах — надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у ЗША і адначасова пасланнік СССР у Рэспубліцы Куба. У 1946-1948 гадах — пастаянны прадстаўнік СССР у Савеце Бяспекі ААН і адначасова намеснік міністра замежных спраў СССР. З чэрвеня 1952 года — надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у Вялікабрытаніі, з красавіка 1953 года — першы намеснік міністра, з лютага 1957 года — міністр замежных спраў СССР, з 1983 года — першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР міністр замежных спраў СССР. Узначальваў дэлегацыю СССР на канферэнцыі ў Думбартан-Оксе (1944) па стварэнні ААН, удзельнічаў у Крымскай і Патсдамскай канферэнцыях кіраўнікоў урадаў трох вялікіх дзяржаў — СССР, ЗША і Вялікабрытаніі (1945), член савецкай дэлегацыі, потым яе кіраўнік на канферэнцыі Аб'яднаных Нацый у Сан-Францыска (1945), удзельнік нарад міністраў замежных спраў чатырох дзяржаў (СССР ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі), няраз узначальваў дэлегацыю СССР на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН. Удзельнічаў у нарадах Палітычнага кансультатыўнага камітэта дзяржаў-удзельніц Варшаўскага дагавору.

Андрэй Грамыка — член КПСС з 1931 года. На XIX з'ездзе КПСС выбраны кандыдатам у члены ЦК, а на XX, XXII — XXVI з'ездах — членам Цэнтральнага Камітэта КПСС. З красавіка 1973 года — член Палітбюро ЦК КПСС.

Андрэй Грамыка — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР другога, пятага і ўсіх наступных скліканняў. Дэпутат Вярхоўнага Савета РСФСР.

За заслугі перад Радзімай Андрэю Грамыка двойчы прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Ён узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі.

# У Прэзідыуме ГП БГКТ

26 чэрвеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, прысвечанае абмяркоўцы матэрыялаў на набліжаючыся пленум ГП БГКТ.

„Напрамкі працы аддзелаў БГКТ у рэалізацыі пастаноў X З'езда БГКТ" — праект даклада прадставіў сакратар ГП БГКТ Віталіс Луба. Намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня пазнаёміў з праектам інфармацыі адносна дзеяння Прэзідыума ад мінулага пленума.

Абмеркаваны былі таксама справы, звязаныя з рамонтам памяшкання ГП БГКТ, а таксама справы, звязаныя з выбарамі ў Сейм.

Спасылаючыся на Выбарчую ардынацыю, Прэзідыум ГП БГКТ ад імя таварыства, як арганізацыі агульнакраёвага абсягу, звярнуўся да Краёвай рады Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння з просьбай, каб у выбарчых спісках кандыдатаў на пасло ў былі ўлічаны таксама ў прапарцыянальнай колькасці да ліку беларусаў, што жывуць у Польшчы, і кандыдаты-беларусы.

(мх)

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## АМАЛЬ ЗВЫЧАЙНАЯ ГІСТОРЫЯ

У адзін з шэрых кастрычніцкіх дзён жыхары Мерзебургер штрасэ ў Заходнім Берліне маглі бачыць старую жанчыну, якая сядзела на скрыніцы. На каленях яна трымала напакаваную сумку, каля ног стаяла вядро з бульбай, тут жа ляжаў пачак маргарыну. Побач — два чорныя чамаданы. Сівыя валасы жанчыны акуратна зачэсаны назад, прыемны інтэлігентны твар і позірк: позірк у нікуды.

А здарылася вось што. 70-гадовая Кэці Клансдорф пайшла ў магазін па пакупкі, як гэта яна прывыкла рабіць па панядзелках. А калі вярнулася, увесь яе няхітры скарб ужо стаяў ля парога дома, дзе яна пражыла амаль 16 гадоў. Што ж здарылася ў той злачасны для Кэці дзень?

Справа ў тым, што жанчына была вінна за кватэру (345 марак 40 пфенігаў), і судовы выканаўца Шэнбергскага раёна Заходняга Берліна выселіў фрау Клансдорф на вуліцу, урэзаўшы на ўсялякі выпадак дадатковы замок.

Можна зразумець стан адзінокай старой. Яна спрабавала растлумачыць уладам, што кожны месяц спраўна плаціла за кватэру (калі можна назваць кватэрай пакой без ванны, з туалетам у двары) 172 маркі 70 пфенігаў. За лістапад і снежань яна грошы яшчэ не перавяла, таму што ёй сказалі крыху пачакаць: павінен быць зроблены пераразлік. Пісьмовых папярэджанняў ад судовага выканаўцы фрау Клансдорф не атрымлівала...

Ну, а што гавораць з гэтай нагоды супрацоўнікі фірмы Ботаг, якая ўжо на працягу года валодала домам 7 па Мерзебургер штрасэ? Нехта пан Зіверт: „Мы папярэджвалі фрау Клансдорф тройчы. Але калі б мы ведалі, што ёй ужо 70 гадоў, мы павялі б сябе, вядома, інакш. Як „інакш" — ён не ўдакладніў: відаць, дазволілі б старой самой сабраць свае рэчы і, магчыма, дапамаглі б вынесці іх.

Якое ж выйсце прапануюць „айцы горада" бездапаможнай пенсіянерцы? Прытулак для бяздомных. „Кожнаму павінна быць гарантавана дастойнае жыццё", як запісана ў параграфе I федэральнага закона аб сацыяльнай дапамозе. Але адзінокая бездапаможная бабулька нават і чуць не жадае аб такім варыянце. Апусціцца „на дно" — у бедныя антысанітарныя баракі — апошняе прыстанішча для „асацыяльных" элементаў, як іх называюць тут, яна не хоча. Той, хто хоць раз трапіў у прытулак для бяздомных, вымушаны насіць ганебнае кляймо да канца дзён сваіх. Да таго ж, і рэжым у гэтых бараках, падобны на казарменны: роўна ў 22 гадзіны трэба быць „дома". Інакш прастаіш да раніцы ля замкнутых дзвярэй. Не так проста і выйсці ў вячэрнія гадзіны з „богаўгоднай установы" — трэба загадзя падаць заяўку на выхад.

Нават на афіцыйных, яўна заніжаных даных, пяць тысяч жыхароў Заходняга Берліна не маюць даха над галавой, у горадзе тысячы бяздомных студэнтаў. І ў той жа час пустуюць тысячы кватэр — альбо ў новых дамах, дзе кватплата непамерна вялікая, альбо ў старых будынках, якія іх гаспадары свядома прыводзяць у заняпад, каб атрымаць ад сената дазвол на знос і субсідыі на новае будаўніцтва, а пасля ўзвінціць кватплату ў некалькі разоў.

I. K.

(Працяг са стар. 1)




ma męczyć się tak długo, żeby czytelnik już nie musiał".

І на маю думку, разумна. Сёння, у час розных стрэсаў, непакояў, у век электронікі, камп'ютэрызацыі, тэлевізіі і іншага, здаецца, чалавецтва дасягнула ўжо найвышэйшай ступені свайго развіцця. І цяпер чалавек мае траціць час на якуюсьці, выбачайце, бязглуздзіцу? Сусветная літаратура мае надта многа прыгожай паэзіі, чытаючы якую чалавек адпачывае целам і душою. Такую паэзію чытач паглынае, як губка ваду, і насычаецца ёю.

А мы, беларусы Беласточчыны, маем тую вышэйшую пазіцыю, што валодаем некалькімі мовамі: польскай, рускай, беларускай. А літаратуры прыгожай, зразумелай і вялікай, на гэтых мовах — хоць адбаўляй.

Частка творчасці Я. Чыквіна не „змушае да мыслення". Возьмем такі верш, як „Фліртусь". Тут, як кажуць, усё разважана і ўложана ў рот. Толькі глынай. На жаль, немагчыма глынуць. Нудзіць. Дзіўна! Здольны паэт, многа напісаў прыгожага. Навошта ж ліць у бочку мёду кварту дзёгцю?

У 18 нумары „Нівы" на стар. 5 нехта „С.Я." паведамляе чытачоў „Нівы", што Надзея Артымовіч прынята ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў. Мяне гэта цешыць. Гэта каштоўны здабытак „белавежцаў". Шырокай ёй дарогі на Парнас!

Апісваючы літаратурную творчасць Н. Артымовіч, С. Я. піша: „Надзею цікавіць толькі інтэлігентны чытач". Як паказвае жыццёвы вопыт — мала некім цікавіцца. Важна, каб табою хтосьці цікавіўся. Беларускі інтэлігент — гэта ў першую чаргу студэнт, а тут, верачы А. Барскаму, а яму верыць можна, беларускія студэнты наогул не цікавяцца „белавежцамі" і іх творчасцю. Адсылаю да публікацыі „На мяжы" („Цана папулярнасці", частка VIII).

Мяняюцца часы — мяняюцца людзі і мяняюцца характары. Некалі вялікі польскі паэт А. Міцкевіч пісаў: „O gdybym kiedy dożył tej pociechy, żeby te księgi zbłądziły pod strzechy".

Наш беларускі паэт пісаў нешта падобнае. А нашы некаторыя паэты цяпер шукаюць чытачоў у вілах і блоках, бо там дзесьці жыве беларуская інтэлігенцыя. Пакойны Дзядзька Квас, вечная яму памяць, таксама быў ворагам паэзіі, „змушаючай да мыслення".

Можа мы і памыляемся. Хай нам прабачаць паэты новай плыні. Можа іх творчасць — гэта творчасць XXI стагоддзя. Стагоддзя касмічнай эры, бо тады за чалавека будуць працаваць робаты і маніпулятары, а чалавек, якога яшчэ не пакінула прывычка працы, будзе нудзіцца.

Мы, старэйшае пакаленне, многа чаго не разумеем. Вазьміце сёняшнюю песню. Некаторыя сучасныя спевакі ці групы падобныя на хворых на цяжкую хваробу св. Віта, а вось жа

(Працяг на стар. 6)





Чаромха — пасёлак.

Фота Я. Целушэцкага.

Вясной адбыўся ў Чаромсе I з'езд Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння.

У чаромхаўскім „Калеяжы" сустрэліся людзі розных узростаў і прафесій, прадстаўнікі вёсак і паасобных чыгуначных служб з шматгадовым стажам грамадскай працы, якія неаднойчы агульныя справы ставяць вышэй асабістых. Мо таму якраз дыскусія на з'ездзе мела бурны характар. Прыслухоўваючыся, я зразумеў, што пачалося ў Чаромсе нешта дзеяцца, змяняцца. Амаль кожны кранаў праблемы сваёй вёскі, асяроддзя, у якім працуе і пражывае. Найбольш крытычных заўваг было ў адрас гміннай управы, праўлення ГСу і цэнтральнай чыгуначнай дырэкцыі.

Калі будзе праведзены водаправод, ці арганізуецца ЦПН і пабудуецца пякарня ў Чаромсе? Калі насычальня і паравознае дэпо перастане атручваць мясцовую рачулку, а сцёкі свінарні рэстарана перастануць смярдзець жыхарам пасёлка? Чаму чыгуначныя ўлады вырашылі будаваць жылыя дамы для чыгуначнікаў у суседніх Кляшчэлях, а не ў Чаромсе? Урэшце клопаты з гандлем, марнатраўства ў сельскай гаспадарцы, неадпаведныя міжлюдскія адносіны — вось хвалюючыя пытанні і праблемы жыхароў Чаромхаўскай гміны.

Наконт некаторых з гэтых спраў адразу выказаліся начальнік гміны Мікалай Кулік і радны ВРН Васіль Астапковіч. Іншыя былі паказаны Камісіяй пастулатаў і прапаноў з мэтай накіравання іх у кампетэнтныя органы.

З'езд накрэсліў напрамкі далейшай дзейнасці, выбраў пленум рады. Старшынёй ізноў выбралі Тадэуша Кастоўскага, а намеснікам — Мар'ю Кандрацюк і Міхася Маркевіча.

## У ЧАРОМХАЎСКІМ ПРОНе

* * *

І вось нядаўна адбылося пасяджэнне пленума рады чаромхаўскага ПРОНу, На парадку дня ставіліся справы аховы асяроддзя, прадухільвання і перадольвання з'яў грамадскай паталогіі, а таксама распаўсюджвання грамадскіх пачынаў.

З дакладамі выступілі: Мар'я Кандрацюк, Васіль Саўчук і Галена Зазанюк.

Найбольш увагі прысвяцілі прысутныя ахове асяроддзя. І так, напрыклад, Вера Гапанюк гаварыла аб тым, што з ляска каля насычальні зрабілі сметнік, а сцёкі з шамбаў выліваюцца проста дзе папала, неаднойчы побач шашы. Тады смурод на ўсю ваколіцу.

Віталіс Шульжык са Ставішчаў, закрануў праблему атручвання яго вёскі сцёкамі насычальні.

Гаварыў грам. Шульжык: „Вада ў нашых калодзежах не надаецца для піцця. Насычальня, ачышчаючы роў, якім ідуць сцёкі, вываліла ўсё на дарогу. Цяжка вытрымаць было ад смуроду. Мы ўжо думалі пайсці ўсёй вёскай і заваліць роў".

У гэтай справе адказваў намеснік дырэктара насычальні. З яго слоў вынікала, што праблему можа вырашыць толькі пабудова ачышчальні сцёкаў.

Многа ўвагі ў дыскусіі прысвяцілі члены пленума справам грамадскай паталогіі, асабліва распаўсюджанаму п'янству і злачынствам сярод непаўналетніх. У тым кантэксце прысутныя дамагаліся ад міліцыі больш паспяховых мераў у ліквідаванні піяцкіх прытонаў і патаемнага продажу гарэлкі.

Чаромха гэта не толькі буй-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

# ПАЎДНЯ НА ЛІТВЕ

вынікі дасканалыя: беларусы навучылі сваіх суседзяў вырошчваць бульбу і Варэнскі раён займае ў гэтай галіне першае месца ў Літоўскай ССР, а тыя раскрылі ім таямніцы гадоўлі быдла і Шчучынскі раён стаў перадавым у Беларусі і СССР па пастаўках убойнай жывёлы, бо Літва — гэта майстар у гадоўлі быдла, а Беларусь — у вырошчванні бульбы.

Спрадвечнае ўяўленне суседніх народаў, што Літва — гэта край лясоў і азёр. Такое перакананне самі літоўцы не толькі не хочуць развейваць, але яшчэ болей умацоўваюць і паглыбляюць. І нездарма: у сёняшнім зніштожаным прамысловасцю свеце буйны лес і чыстая вада — гэта сапраўднае багацце. Таму нельга не захапіцца тымі арыгінальнымі, вырэзбленымі ў дрэве статуямі і цэлымі кампазіцыямі, якія літоўскія мастакі ставяць на берагах азёраў і на ўзлесках. У гэтых творах увасоблены героі літоўскага фальклору: старажытныя багі, казачныя героі і жывёлы. Недзе каля Алітуса мы прыкмецілі над возерам статую вадзяной змяі ў кароне, а далей на ўзлеску — фігуру ляснога д'ябла. На першы погляд — от, займальная забава. А разважыўшы: якая ж гэта ўдумлівая стваральная работа! Уваскрашаюцца арыгінальныя, красачныя традыцыі і такім чынам выхоўваецца ў людзей пашана да свае нацыянальнай гісторыі, улюбёнасць у родны край, яго прыроду, людзей, культуру. І так, вырэзбленыя ў дрэве легендарныя героі сцерагуць на Літве не толькі рэкі, азёры, лясы...

Гэтая гістарычная свядомасць літоўцаў датычыць не толькі адлеглых эпох. Каля шашы Гродна-Вільна, у Варэнскім раёне ў 1960 годзе быў узведзены помнік ахвярам фашызму. У яго цэнтры велічная фігура Смуткуючай Маці — твор выдатнага літоўскага скульптара Гедыміна Якубоніса. Помнік стаіць на месцы вёскі Пірчупіс, усіх жыхароў якой — 117 мужчын, жанчын і дзяцей — немцы расстралялі, а вёску спалілі і зраўнялі з зямлёй. Вось ужо чацвёрты дзесятак год з усіх куткоў Літвы штодня прыбываюць сюды сотні людзей, каб пакланіцца памяці загінуўшых сурodзічаў і назаўсёды запамятаць пранікнутую роспаччу і гневам постаць Маці-Літвы. Пры нас на паркінг заехала некалькі аўтобусаў, з іх высыпалася каля сотні школьнікаў з выхавацамі. Яны ў цішы слухалі інфармацыю праваднікa, паважна ўсклалі вянкі і кветкі да падножжа помніка. Потым разбрыліся па навакольным лесе, што вырас на тых палетках, з якіх ратаёў і жніц знішчожылі фашысты 3 чэрвеня 1944 года, калі на свеце не было яшчэ бацькоў гэтых шустрых белабрысых хлапчукоў і дзяўчынак.

Вільня спаткала нас доўгім коркам на шашы пры ўездзе ў горад. Відаць, інтэнсіўнае жыццё паўмільённага горада патрабуе больш спраўных камунікацыйных артэрый. На шчасце, наш шафёр — увасабленне разважлівасці і спакою родам з-пад Бераставіцы — на гэты раз крыху збіўся з дарогі, і мы перад тым, як трапіць у старажытную частку Вільні, крыху паблукалі па яе новых жыллёвых кварталах. Уражваюць імкненні — падобна як і ў вясковым будаўніцтве рэспублікі —

# СЕМЯНОЎСКІЯ ЗМЕНЫ

Хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі аб пабыўцы ў Семяноўцы. Быў якраз аўторак. Павяла я малога на ўколы ў Семяноўку. Думала, што тут будзе так, як два гады назад, калі я была апошні раз. Але памылілася. Хто новую хату пабудаваў, а хто пачынае будаваць. Убачыла незнаёмых жанчын з малымі дзецьмі. Калі не ў самой Семяноўцы жывуць яны, то ў суседніх вёсках.

Іду і бачу: ідзе насустрач дзяўчына. Думала я: сяброўка з пачатковай школы, але аказалася, што зусім іншая дзяўчына, на чатыры гады маладзейшая.

Многа людзей „пайшло“ на той свет. Аж верыць не хочацца, што не жыве Ян Матысюк. Такі працавіты чалавек! Усёўсюсенька сабе рабіў. Усё пабудаваў. І каму гэта? Дзеці яго ў горадзе, толькі меншы вучыцца яшчэ і час ад часу ў хаце бывае. Цікава, ці астанецца на гаспадарцы?

Хоць Матысюку было ўсяго 51 год, ён ужо даўно быў на пенсіі. Хварэў на сэрца. Дактары гаварылі не рабіць цяжка. Але ж ён не мог усядзець спакойна.

Памерлі таксама дзве жанчыны год ужо за 70. Адна вельмі часта хварэла і штодзённа брала лякарствы, другая месяц перад смерцю захварэла грыпам. Другая ўсё жыццё збірала і прадавала зёлкі. Сапраўды, аж цяжка паверыць, што ніколі больш не сустрэнеш гэтай жанчыны. Хаця глухая была, але пагаварыць з кожным любіла, яшчэ і памагчы магла.

Памёр таксама старэнькі дзядуля, гадоў 90 было яму, як не больш. Памятаю як сёння, ён часта хадзіў у грыбы. Некалькі разоў на дзень адпраўляўся ў лес. Калі грыбоў не было, то сасновае карэнне нёс на кошыкі. Сабе рабіў і людзям, бывала, прадаў. Так, так, яшчэ такога выпадку ў гісторыі не было, каб час стаяў на месцы.

Дарэчы, у асяродку здароўя ў Семяноўцы працуе новая медсястра. Многа гадоў была тут медсястрой Валянціна Грыка, але атрымала ў Гайнаўцы кватэру і цяпер там працуе. Была вельмі ветлівая жанчына. Падмяніла яе Галіна Матысюк. Сама яна з Альхоўкі, але ў Семяноўцы замужам. Таксама ветлівая. Калі толькі ўвойдзе маці з дзіцём, адразу адазвецца да малога чалавечка, усміхнецца. Будзе добрая медсястра, толькі ці надоўга? Дзіця ў дарозе, невядома ці пасля родаў будзе далей працаваць, ці не застанецца ў хаце? Мужавы бацькі маюць гаспадарку.

Бачыла, што чыгуначнікі пачалі тынкаваць семяноўскую пачатковую школу. А на семяноўскіх могілках людзі пабудавалі прыгожую капліцу. Семяноўка забяспечана валам, каб Нарва не затапіла, а дакладней кажучы, каб вадасховішча „Семяноўка“, калі будзе закончана, не заліло вёску.

Многа незнаёмых мне дзяцей вучыцца ў пачатковай школе.

Хто назаўсёды выехаў у горад, хто застаўся ў Семяноўцы, хто ўжо вызначыў тэрмін шлюбу і будзе жаніцца, або замуж ісці. Многа, вельмі многа змен!

Прыйшла дамоў. Малы заснуў, я выйшла ў лес на шпацыр. А там, Божа мой! Бруд, бруд і яшчэ раз бруд! Колькі пабітых бутэлек і слоікаў валяецца незакапаных! Колькі вёдраў заіржавелых! Колькі галля, якое хтосьці вывез з садоў! Абрэзкі фоліі! Нават дзіравы кошык з сасновага карэння.

Каб гэта ўсё сабраць з усіх лясоў у адну кучу, паверце, заняло б дзесяткі гектараў поля. А ў нас жа крызіс! Не магу зразумець, чаму ніхто гэтым не цікавіцца? Калі б узяць усе гэтыя вёдры і гаршкі ў гуту і ператапіць, то колькі новага можна было б зрабіць!

Галлё людзі маглі б спакойна спаліць у печах, столькі лесу зберaглі б! Але хто там будзе паліць? Гавораць: сорамна такое штосьці ў хату валачы! Вось як усе распанелі!

Непадалёк ад нашай хаты луг, на якім расце бяроза. Крокаў дзесяць ад гэтай бярозы ляжала галлё. Гаспадар, калі выпальваў луг, галля не адкінуў і ад яго бяроза моцна абгарэла. Цяпер стаіць сумная, толькі на верхавіне крыху мае зялёных лісткоў.

Калі ўжо хто што выносіць у лес, то няхай хаця выкапае яму і непатрэбнае закапае. Але хто цяпер пра тое думае? Ніхто! А грамадства ж усёй Польшчы — гэта людзі адукаваныя. Амаль кожны закончыў сярэднюю школу.

**Аўрора**




## ЧАРГА ПА-БЕЛАВЕЖСКУ

Чэргі перад крамамі, хаця і найдаўжэйшыя, не палохалі б мяне, калі б быў у іх парадак. На жаль, у Белавежы, дзе я жыву, парадку ў чэргах зусім няма.

Амаль кожная чарга ў нас фарміруецца на шмат гадзін да дастаўкі тавару. Зранку перад крамай збіраецца некалькі чалавек. Яны ўстанаўліваюць, хто за кім стаіць, пагавораць крыху і разыходзяцца, кожны да сваіх заняткаў. Астаецца звычайна толькі апошні ў чарзе і стаіць дагэтуль, пакуль прыйдзе наступны чалавек і зойме за ім месца ў чарзе. І гэтак працягваецца аж да апошняга кліента. Кожны „чаргоўнік“ мусіць ведаць, за кім ён стаіць і хто стаіць за ім. І гэтага ім хапае. Некаторыя адрываюцца час ад часу ад сваіх заняткаў і прыходзяць паказацца „чарзе“. Іншыя зноў лічаць, што гэта непатрэбна, і зусім не паказваюцца. Але ўсе пільнуюць момант дастаўкі тавару. І калі ўжо тавар у краме, кожны займае сваё месца ў чарзе. „Займае“ — гэта, можа, сказана не вельмі трапна. Бо як заняць месца, калі людзі, якія прыйшлі раней перад іншымі (не абавязкова якраз тыя, якія састаўляюць чало чаргі), становяцца цесна перад дзвярыма крамы, або перад прылаўкам і няма такой сілы, каб яны паслабілі чаргу і „чаргоўнікі“ з „месцамі“ маглі ў яе ўступіць. Ды і расце на чале чаргі асаблівы „чаргоўскі рой“. Як ён выглядае, уявіць лёгка, бо кожны напэўна бачыў бочку з селядцамі. Такая „бочка з селядцамі“ фарміруецца ў белавежскіх крамах, асабліва ў мясной. Тэарэтычна кожны з гэтых „селядцоў“ (бо ж не „чаргоўнікаў“) ведае, якое яго месца і каму належыцца перад ім купіць тавар. Але гэта тэарэтычна. Практычна дзеецца не так прынцыпова. Найважнейшае — уцісну́цца ў натоўп і

**(Працяг на стар. 7)**




Русские дореволюционные газеты в фондах Библиотеки АН СССР 1703-1916. Алфавитный каталог ч. I-II. Составители: С. А. Кузьмин, Г. Н. Яковлев. Ответственный ред. В. А. Филов. Библиотека Академии Наук СССР, Ленинград 1984, ч. I сс. 285. ч. II сс. 299.

Алфавітны каталог выдання раскрывае адзін з большых газетных збораў СССР. У каталог увайшлі дарэвалюцыйныя газеты на рускай, украінскай і беларускай мовах, што выдаваліся на тэрыторыі Расіі ад 1703 да 1916 г.г. Матэрыялам для гэтага каталога паслужыў збор газет асноўнага фонду Бібліятэкі Акадэміі навук СССР. У сувязі з вялікім аб'ёмам матэрыялу каталог выходзіць у дзвюх кнігах. У першую ўвайшлі газеты, назвы якіх пачынаюцца на літары А-П, у другую — на літары Р-Я, успамагальны геаграфічна-храналагічны паказальнік і спісак скарачэнняў.

Бібліяграфічныя апісанні ў каталогу распаложаны ў алфавітным парадку загалоўкаў газет. Выключэннем з'яўляюцца газеты на ўкраінскай і беларускай мовах, змешчаныя ў канцы алфавітнага радка.

Будзе цікава адзначыць, што газеты, выдаваныя ў Беластоку, таксама знайшлі месца ў каталогу. Іх назвы: Белостокские областные ведомости (1838-1843), Прибавление к „Белостокским областным ведомостям“ (1840) Белостокская газета (1910), Голос Белостока (1910-1914), Белостоканин (1912-1914), Коммерческий курьер (1913), Новая газета (1913), Новости Белостока (1913-1914), Белостокская жизнь (1914).

**Р.С.**

стварыць уласны адметны літоўскі архітэктурны стыль, у якім скарыстоўваюцца традыцыі колішняга будаўніцтва і матывы з народнай творчасці, асабліва гэтае апошняе заўважаецца ў дэкоры і малых архітэктурных формах.

Нам пашанцавала: стаяла сухое сонечнае панадвор'е, і з вежы Гедыміна ўся Вільня была відаць, як на далоні. Вунь ля падножжа Замкавай гары віецца свавольніца Вілія, а на правым яе беразе відаць узвышша, на якім у X-XIV ст.ст. стаяў старажытны горад Крывы. Ён займеў сваю назву ад першых яго заснавальнікаў і насельнікаў — беларускага племя крывічоў. Да такога сцвярджэння прыходзім, калі наведваем музей, які памяшчаецца ў вежы Гедыміна. У ім даволі багатыя зборы археалагічных знаходак і экспанатаў з розных гістарычных эпох. Адзін з паверхаў займае вялікі і падрабязны макет якраз Крывога горада і Вільні ў X—XVI стагоддзях. Толькі вялікі князь Гедымін на пачатку XIV ст. пабудаваў на высокай гары на супрацьлеглым, левым беразе Віліі свой магутны замак і аб'явіў яго сталіцай Вялікага княства Літоўскага. У летапісах Вільня ўпершыню ўпамінаецца пад 1323 г. Крывы горад стаў яе зарэчным умацаваным прадмесцем, а з бегам часу ён зліўся з ёю і страціў сваю адасобленасць.

Куды з вяршыні Гедымінавай вежы не кінуць вокам — усюды згадваюцца факты, якія звязваюць гісторыю беларускага народа і яго культуры з гэтым горадам ад старажытнасці і да нашых часоў. Гэта ж тут, ля падножжа Замкавай гары, наш першадрукар Францішак Скарына выдаў у 1525 годзе на беларускай мове „Апостал“ і „Малую падарожную кніжыцу“. У 1595 г. у Вільні выйшаў першы падручнік беларускай мовы, які напісаў Лаўрэнцій Зізаній. А крыху далей, каля Вострай брамы, у дастойных мурах Віленскага універсітэта слухала моладзь адкрыўчыя лекцыі ўраджэнца з Волькі Выганоўскай, што ў Арлянскай гміне на Беласточчыне, прафесара Міхаіла Бабро́ўскага. Гэта ж ён кіраваў ва універсітэце беларуска-літоўскім філалагічным гуртком — першай кузняй адкрывальнікаў роднай Беларусі. А з другога боку, дзе кучаравяцца верхавіны дрэў на колішнім Лукішскім пляцы, памёр на віселіцы „чырвоны дыктатар“ паўстання 1863-64 гадоў на Беларусі і Літве — Кастусь Каліноўскі. У тым жа старым „месце Віленскім“ загаварыла беларускае слова ў „Нашай долі“ і „Нашай ніве“, а Вільня стала галоўным цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэння. У ёй знайшлі прытулак і разгортвалі актыўную дзейнасць Францішак Багушэвіч, Алаіза Пашкевіч-Цётка, Янка Купала, Якуб Колас і шэраг іншых будзіцеляў нацыянальнай свядомасці нашага народа і стваральнікаў яго культуры. І пасля, ужо ў міжваенны перыяд, Вільня надалей была фактычнай сталіцай беларускага руху ў тадышняй Польшчы. Тут дзейнічалі цэнтральныя органы: Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, Беларускай сялянска-рабочай грамады, Таварыства беларускай школы і многіх іншых нелегальных і легальных беларускіх арганізацый. Актыўна дзейнічалі Беларуская гімназія, Беларускі музей, Беларуская настаўніцкая семінарыя, рэдакцыі ўсіх заходнебеларускіх часопісаў і газет, выдавецтваў, працавалі беларускія друкарні, кнігарні. Вільня тады гаварыла многімі мовамі, а сярод іх наша беларускае слова чуваць было нароўні з польскім, літоўскім, яўрэйскім, рускім...

Яшчэ адзін позірк на гістарычны горад — і спускаемся з Гедымінавай вежы. Яшчэ крыху часу блукаем па колішніх вузенькіх, пакручастых вулачках, якія мне нагадваюць Кракаў і яго наваколле Галоўнага рынку: такая ж дастойная санавітасць старажытных мураў і тая ж атмасфера ціхага роздуму над убачаным і перажытым. Большасць будынкаў спавіваюць рыштаванні, усюды стусы цэглы, камення, дошак. Звоняць малаткі муляроў і бляхароў, шамацяць кельні тынкаўшчыкоў, мільгаюць пэндзлі маляроў. Старая Вільня амаладжваецца!

Палуднуем у Новавільні, цяпер ужо ў складзе Вялікага Вільнюса. Ва ўтульнай сталовай падаюць нам мажную катлету і літоўскае... бацвінне. Смакавітае!

**М. Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг с[illegible] 1)




людзі такім выкананнем песні захапляюцца — упадаюць у экстаз.

Я задаволены Віктарам Шведам. Гэта паэт, чалавек і грамадзянін. Яго верш „Запавет“ выціснуў з маіх вачэй многа слёз.

Таксама Д. Шатыловіча — „Сустрэчы“, № 31 год 1984. Хай ніхто не падумае, што я такі плаксівы. Над гэтымі вершамі аднак кожны заплача, хто ў сваім жыцці што-небудзь перажыў.

А Барскаму я дзякую за яго цыкл „На мяжы“. За такія нарысы, як „Аб адзіноцтве і дзецях“. Як жа сёння яны актуальныя. Чытаючы гэта, не адзін старэйшы адзінокі чалавек заплача, нават калі б у яго былі найлепшыя дзеці і яны ім як найлепш апекаваліся.

Паэты-„белавежцы“! Хай ніхто з вас не пакрыўдзіць гэтая мая пісаніна. Веру, што вы так будзеце пісаць, як і пісалі. Да вас належыць жыццё.

Маё вялікае жаданне, гэта каб хоць адзін з вас, а нават і вы ўсе, маглі сказаць яшчэ пры жыцці і без зазнайства словамі вялікага А. С. Пушкіна:

Я памятник себе воздвиг
нерукотворный,
К нему не зарастёт
народная тропа.

**Дзед Кастусь**

(Працяг са стар. 1)

## ЦЯЖКІ ЎСПАМІН

мятаецца. Хаця стары ўжо я, але яшчэ і цяпер пайшоў бы ў бой, калі б трэба было. Хай лепш не будзе вайны. Мае дзеці жывуць шчасліва. Усім добра жыць і з мяне хопіць. На захадзе хочуць вайны, мала было ім бяды? Чаго ім трэба? Дрэнна жыць у міры?

Частуйцеся, чым маю. Ведаеце, каб была мая баба дома, то лепш... Яна чытае „Ніву“, і я чытаю сам. Яна па-беларуску — і я ўмею чытаць. Будзеце пісаць, пішыце, але напішыце, каб не было вайны.

**Ян Мордань**

(Працяг са стар. 2)

## АБ ЧАРОМХАЎСКІМ ПРОНе

ны чыгуначны цэнтр, гэта перш за ўсё зборышча розных людзей і характараў. Аб Чаромхаўскай гміне гаворыцца, як аб „цяжкай і спецыфічнай“. Мне аднак здаецца, што гэта ацэнка няправільная, а нават крыўдная для жыхароў пасёлка. Вельмі добра, што ў людзей пачалі адкрывацца вочы на ўсе хібы штодзённага жыцця, што пачала знікаць абыякавасць да грамадскіх спраў, а асноўнае, што знайшліся адважныя, якія патрапяць яўна выступаць у слушнай справе.

Цяжка пакуль сказаць, ці тое, што гаварылася на з'ездзе, будзе паслядоўна рэалізавацца. Калі словы стануць чынам, тады зможам сказаць, што чаромхаўскі ПРОН робіць вялікую справу.

**Ул. Сідарук**



На I з'езд выпускнікоў беларускага ліцэя ў Гайнаўцы прыехала звыш 200 чалавек.

# ІХ РОДНЫ КУТ

Іх родны кут — гэта Гайнаўшчына, вёскі і пасёлкі, раскінутыя на прасторы ад Кляшчэляў да Семяноўкі і ад Орлі да Белавежы. Ішлі ў свет басанож, з галодных сялянскіх хат. Важным прыпынкам на шляху ў людзі была для іх беларускамоўная школа ў Гайнаўцы, дзе не пыталі, ці вучні ведаюць агульнадзяржаўную мову.

Гэтая школа распачала сваё існаванне ўжо ў 1944 годзе, калі фронт стаяў яшчэ на Віслe. Арганізаваў яе Васіль Бахар, пра якога зараз мала што вядома, таксама, як і аб наступным кіраўніку гэтай беларускай школы ў Гайнаўцы, аб настаўніцы Ніне Нічыпарук, родам з вёскі Янова, што каля Нарвы. У школьнай хроніцы запісана толькі, што яна загінула трагічна. Дзе? Няўжо стала ахвярай узброенага падполля?

Школьныя гады 1945-46 і 1946-47 — гэта новы этап у развіцці гайнаўскага ачага беларускай асветы. Школа пад кіраўніцтвам Васіля Літвінчука павышаецца да ўзроўню гімназіі. Пасля на два гады беларуская мова знікае з праграмы не толькі гайнаўскай гімназіі, каб у 1949 годзе адрадзіцца зноў, ужо ў агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання, у якім навука пачыналася ў першым класе і канчалася экзаменам на атэстат сталасці пасля адзінаццатага класа. Арганізатарам і першым дырэктарам гэтага ліцэя быў тадышні пасол Сейма ад Гайнаўшчыны — Сяргей Сарока. Затым гайнаўскім беларускім ліцэем кіравалі: у гадах 1957-1968 — Анастасія Тропак, у гадах 1968-1971 — Аляксандр Іванюк, 1971-1981 — Уладзімір Сцепанюк і ад 1981 года зноў дырэктарам стаў мгр Аляксандр Іванюк. Пад яго кіраўніцтвам працуе зараз у гэтым ліцэі 14 настаўнікаў. Усе яны выдат-



Першыя дырэктары ліцэя — Сяргей Сарока і Анастасія Тропак.




# МАГІЛА БРАТА

Ян Русель працуе пісьманосцам у сваёй роднай вёсцы Подваркі, якія ў афіцыйных спісках выступаюць як Фальваркі Тыльвіцкія. Гэта па дарозе з Заблудава ў Міхалова. Шаша проста перасякае гэтую вёску на дзве часткі.

Недалёка за Подваркамі, на ўзгорку, зарослым лесам, знаходзіцца невялікая драўляная царкоўка, праслаўленая легендамі, якія сваімі карэннямі сягаюць канца 17 і пачатку 18 стагоддзяў.

Па-народнаму гэтае месца называецца Пяценкай. Мабыць, таму, што кожны год у пятніцу на 10 тыдні ад Вялікадня наладжваецца тут урачыстае богаслужэнне, а ў цэлым прыходзе гэты дзень адзначаецца як вялікае свята.

Навокал царквы людзі здаўна заснавалі могілкі. Тут, між іншымі, пакоіцца і наш Дзядзька Квас. На гэтых могілках таксама пахаваны савецкія воіны, шлях якіх да берлінскай перамогі абарваўся ў Подварках.

На гэтую Пяценку трапіў я якраз у пятніцу, 21 чэрвеня 1985 года, у дзень гадавога свята. У царкве ішло якраз урачыстае набажэнства, а я блукаўся сярод магіл, шукаючы месца вечнага спачынку гэтых савецкіх сяброў. Дапамог мне ў гэтым Іван Сцяпанавіч Пылкоўскі, староста тутэйшай царквы, жыхар Фальваркаў Тыльвіцкіх.

— Вось тут яны, — паказаў мне дзве дбайна дагледжаныя, уквечаныя магілы. Адна — безымянная, з жалезным праваслаўным крыжам, абведзеная цэментным нагробнікам, у рамках якога растуць кветкі, а ў гэты ўрачысты дзень хтосьці на магіле запаліў свечкі і лампадкі.

Побач — іншая магіла савецкіх воінаў, з вялікай памятнай плітою, на якой па-польску і па-руску напісана:

„Погибли в бою с гитлеровским окупантом 25.VII. 1944 года. Ст. лейтенант Борис Ермолаев, мл. лейтенант Пётр Шевченко. От граждан с/с Фольварки Тильвицкие“.

На гэтай магіле стаялі запаленыя свечкі і лампадкі. Я глядзеў на ўсё гэта і з удзячнасцю думаў аб мясцовых жыхарах, якія так клапоцяцца пра даўно загінуўшых вызваліцеляў гэтых старонак.

З другога боку магіл спыніліся нейкія дзве жанчыны. Пастаялі ў задуменні, як бы ціха шапталі нейкія малітвы, затым перахрысціліся і кожная з іх ад сябе паставіла свечку на салдацкай магіле.

Я не вытрымаў і запытаў у іх, чаму яны ўшанавалі гэтыя магілы.

— Бо тут побач пахавана мая радня, — адказала мне Ніна Макарэвіч з Жэдні. — Дык я заўсёды бяру яшчэ адну лішнюю свечку, каб запаліць яе на гэтай салдацкай магіле.

Вольга Буслоўская з Тапалян яшчэ дакінула:

— То ж, магчыма, сем'і гэтых афіцэраў нават і не ведаюць, дзе яны спачываюць. Як жа ж так абыякава абмінуць гэтую магілу, над якой няма каму пакланіцца?

Староста Іван Пылкоўскі спя-

## Беларускі фальклор

Калі сваты пераконваліся, што бацькі дзяўчыны згаджаюцца іх прыняць, яны з месца пры парозе пераходзілі пад першай бэлькай і ўваходзілі ў сярэдзіну хаты, ды сядалі за стол. На хвіліну як бы адштурхоўваліся ад характару алегарычнага стылю і пачыналі непасрэдную размову на такія нейтральныя тэмы, як пагода, цэны на рынку, здароўе гаспадароў, падзеі ў вёсцы.

У той час ставілі на стол прынесеную бутэльку гарэлкі. Гаспадыня прыносіла закуску. Бацька выганяў з хаты ўсіх непатрэбных членаў сям'і, асабліва дзяцей, а наогул і непатрэбных старых. Пакідаў, аднак, сватаную дачку. Дзеці, як правіла, беглі на падстрэшша, а зімою да суседзяў. Рэдка здаралася, што хаты складаліся з двух пакояў, якія дазвалялі непатрэбным членам сям'і зыйсці з вачэй гасцям. Сватаную дзяўчыну абавязвалі дакладна акрэсленыя нормы паводзін. Павінна была яна перш за ўсё дэманстраваць працавітасць і таму, як бы не звяртаючы ўвагі на гасцей, сядзела пры калаўроце, пачынала замятаць падлогу або таўчы ў ступе ячмень. Вельмі часта падкрэслівала крайнюю сціпласць, адварочваючыся ад прысутных, затрымоўваючыся пры печы і калупаючы пальцам або лучынай паміж цэглаімі.

Польскі даследчык фальклору Г. Бегелейсэн сцвярджае наступнае: „Dłubanie pieca przez dziewczynę tłumaczy się jako znak, że ona „chce zniszczyć dawne ognisko, a szuka nowego".

Беларусы з усходняй Беласточчыны не пацвярджаюць канклюзіі Бегелейсэна. Гавораць яны, што дзяўчына, адварочваючыся ад гасцей і калупаючы ў печы, падкрэслівае сваю сарамлівасць і сціпласць. А гэтыя рысы вельмі высока ацэньваліся сватамі. І таму, не згаджаючыся з вывадам Бегелейсэна адносна сімвалічнай вымовы калупання ў печы, трэба поўнасцю згадзіцца з тым фрагментам даследавання гэтага вучонага, у якім ён гаворыць: „Gdy na Białej Rusi przybędą do dziewczyny swaty, a rodzice zgadzają się na jej wydanie, wówczas ona ucieka, kryje się po kątach i długo się opiera prośbom swatów nalegających, aby przyjęła kieliszek wódki. Wreszcie rumieniąc się, zakrywając oczy fartuchem lub rękoma, po wielu ceregielach przyjmuje wódkę i pije odwróciwszy się do ściany".

У большасці выпадкаў дзяўчына не толькі не мела абавязку, але і не мела права адказваць на пытанні, якія ў яе адрас кіравалі сваты. Усе такія пытанні павінны былі прайсці праз бацькоў. Толькі бацькі былі ў праве пастанавіць, ці самі адкажуць на такія пытанні, ці перададуць іх дачцэ. І толькі ў тым выпадку, калі бацькі паўтаралі пытанне, дзяўчына мела права на яго адказваць. Наогул аднак з гэтага права не карысталася. маўчала, чырванела, апускала вочы і такім чынам падцвярджала сваю сарамлівасць і нявіннасць. Калі здараліся выпадкі, што дзяўчына рашалася адазвацца, дык свой адказ кіравала не ў адрас сватоў, а маці або бацьку. Найчасцей гэтыя адказы зводзіліся да слоў: „Вы лепш ведаеце, чым я", або „Як пастановіце, так будзе". Такія адказы вынікалі не толькі з тактыкі, але і з глыбокага перакананння, што сапраўды бацькі найлепш ведаюць, якія выпрашэнні найбольш карысныя для лёсу дачкі.

Здаралася, але не заўсёды, што дзяўчыну запрашалі за стол. Аднак у добрым тоне было, каб дзяўчына па пэўным часе ўстала з-за стала і ўцякла з хаты да сваіх сяброўак.

**А. Баршчэўскі**

## Таямніцы навокал нас

### РЭЛІКТ ДАЛЁКАГА МІНУЛАГА

Ходзячы па лясах ды лугах, мы рэдка задумваемся над тым, што век розных раслін — у значэнні часу іх існавання на зямлі — не аднолькавы. Адзін з самых старажытных прадстаўнікоў расліннага свету, які прэтраваў да нашых часоў, — гэта хвошч. Прымітыўная, але адначасова цікавая расліна. У сваім развіцці яна прарастае двума відамі сцяблоў. Ідучы ранняй вясной (пераважна ў канцы красавіка) полем ці паплавамі сярод палёў, сустракаем лес карычневых, без галінак, сакавітых, завершаных каласком сцёблаў. Яны невысокія — да 15 см — і здалёк выглядаюць, як утыркнутыя ў зямлю стрэлы гномаў-красналёў. Гэта і ёсць веснавыя сцёблы хвашчу (лацінская назва — Equisetum arvense, skrzyp polny — польская, па-руску — хвощ полевой), у нас, на Беласточчыне яго завуць проста „хвошчка". Бабулька мая ўспаміналa, што калісьці ў тлад людзі збіралі гэтыя сцёблы і карэнішчы хвашчу і варылі замест бульбы. Пацвярджэнне гэтага знайшоў я таксама ў кнігах-лячэбніках шэрагаў аўтараў з розных еўрапейскіх краін.

Варта ведаць, што хвошч палявы, як відаць з яго назвы, — гэта пустазелле ў сельскагаспадарчых культурах. Гэтая расліна любіць кіслыя, пясчаныя глебы, зусім не расце на звапнаванай зямлі. Таму наяўнасць хвашчу — гэта найлепшы доказ таго, што поле не было адпаведна вапнавана і, мякка кажучы, яно не дагледжана.

Веснавыя, спараносныя сцёблы хвашчу праз некалькі тыдняў засыхаюць, і на пачатку чэрвеня прарастаюць летнія — зялёныя, разгаліінаваныя, як ёлачкі. У адрозненне ад веснавых, летнія сцёблы атрутныя. У сувязі з тым, што кожная атрута — гэта адначасова лякарства, таму і летнія сцёблы хвашчу валодаюць лячэбнымі ўласцівасцямі. Хвошч палявы прымяняецца ў медыцыне і ветэрынарыі. Доўгі час ён быў лякарствам супраць кроватачывасці, якое ўшчыльняе тканкі ў пачатковай стадыі сухотаў. Цяпер зелле хвашчу палявога прымяняецца як мачагонны сродак пры запаленчых станах нырачных лаханак (мядніча́к) і мачавога пузыра. Самая пашыраная форма — гэта вывар: 2 лыжкі сухога зелля заліць 2 цклянкамі вады, варыць 30 мінут, потым працадзіць. Піць 2-3 разы ў дзень па паўшклянкі вывару. Часам прымяняюць таксама налўку са свежага хвашчу: 20 грам зелля заліць цклянкай кіпетню.

Некаторыя аўтары папярэджваюць ад прымянення гэтых лякарстваў пры запаленчых станах нырак.

Адвар або налўку з хвашчу палявога прымяняюць таксама да прамывання вачэй пры запаленні кан'юнктыва (спаювак), паласкання горла пры ангіне і іншых запаленчых станах горла і поласці рота. Зелле хвашчу знаходзіць прымяненне пры розных хваробах скуры — высыпцы, апёках, нарывах, ударах, незагойных ранах. На нарывы і раны найлепш прымяняць кампрэсы, а на высыпкі або на пабітыя месцы рэкамендуюцца прамыванні ў вадзе з дадаткам адвару або налўкі.

У народнай медыцыне незагойныя раны змазвалі маззю, нарыхтоўвалі яе з экстракту з зелля хвашчу (1 частка) і непасоленага свежага масла або лекарскага вазеліну (4 часткі).

У ветэрынарыі прымяняюць прысыпку з молатага зелля хвашчу.

Хвошч палявы знайшоў прымяненне таксама ў касметыцы. Пры выпаданні валасоў або пры запаленчых станах тлустай і рыхлай скуры прымяняюць кампрэсы з адвару і налўкі хвашчу. Такія кампрэсы ўзмацняюць валасяныя цыбулькі і супрацьдзейнічаюць запаленчым станам скуры.

Варта прыгадаць, што яшчэ да шасцідзесятых гадоў, пакуль у вёску трапілі розныя парашкі, пасты для чышчэння і іншыя дэтэргенты, датуль зелле хвашчу ўжывалі для чышчэння гаршкоў і шліфавання драўніны. Яшчэ раней, у часы натуральнай сялянскай гаспадаркі, карэнне хвашчу ўжывалі да фарбавання воўны на шэражоўты колер.

**Б. Паскробка**

(Працяг са стар. 7)

# МАГІЛА БРАТА

га ваенкамата, якое ў мяне захавалася, аб гібелі і месцы пахавання майго брата, ён пахаваны ў двух кіламетрах на паўночны захад ад вёскі Тыльніца Беластоцкага раёна. Відаць, дапушчана памылка адной літары ў названні вёскі. Усё гаворыць за тым, што магіла, якая знаходзіцца на праваслаўных могілках у двух кіламетрах на паўночны захад ад вёскі Тыльвіца, побач пахаваных байцоў Пятра Шаўчэнкі і Барыса Ермалаева, з'яўляецца магілай майго брата Баравіка Аляксандра Сямёнавіча, малодшага сяржанта, камандзіра разліку станкавага кулямёта. Мною вядуцца пошукі магілы брата цераз таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца. Калі б атрымаў я пацвярджэнне, што магіла захавалася, дык тады змагу я прыехаць на месца пахавання брата..."

Гэты ліст М. С. Баравік канчае падзякай.

„Вялікае дзякуй Вам, Вашаму мужу ды іншым жыхарам вёскі Тыльвіцкія за тое, што захавалі добрую памяць аб загінуўшым маім браце, што ўстанавілі крыж і задбалі пра магілку".

Анастасія Русель не вельмі ведала, што зрабіць далей з гэтай справай, як дапамагчы Міхаілу Баравіку, каб ён, сапраўды, змог прыехаць на месца пахавання свайго брата. Найперш яна накіравалася ў Ваяводскае праўленне Польскага чырвонага крыжа.

„Аднак, — як адзначае яна ў лісце ў „Ніву", — там я не атрымала аніякай канкрэтнай інфармацыі".

І тады Анастасія Русель, жанчына, сапраўды, бойкая, звярнулася за дапамогай у „Ніву".

„Многія чытачы „Нівы" знаходзілі ў вас дапамогу ў сваіх турботах, — пісала яна. — Таму і я хацела б, каб мая просьба не асталася без водгуку...".

І далей яна апісвае гісторыю салдацкіх магіл на могілках у Пяценцы за Подваркамі.

Я папрасіў у яе, каб яна падшукала яшчэ двух сведкаў і супольна з солтысам вёскі саставілі яны акт аб захаванні салдацкіх магіл на гэтых могілках. Анастасія Русель, хаця жыве яна на хутары, далёка за вёскай, і на гэты раз таксама не пашкадавала свайго часу і сіл, каб адшукаць як найбольш верагодных сведкаў ваенных падзей, якія ў Подварках разыграліся гарачым летам 1944 года. Але аб гэтым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

### МОЙ ПРАГНОЗ

Людзі з гарадоў едуць у вёску куляць парсюкоў па 180 злотых за кілаграм. Селяніну гэтак лепей прадаць; чым на пункце скупкі, бо даражэй. Сяляне пачалі таксама ўводзіць рэформу ў сваіх гаспадарках і сталі гадаваць намнога менш свіней, бо не аплочваецца. Многія нават перайшлі на гадоўлю ялавічыны і малочнага быдла. Аказваецца, што селяніну заўсёды „вецер у вочы".

Цяпер вёска вельмі хутка старэе, гаспадары вылічваюць, што нават не аплачваецца гадаваць малочных кароў, бо калі хто дае больш малака, то заўсёды пападае ў другі або і трэці клас.

Мой доўгатэрміновы прагноз падказвае, што неўзабаве трэба будзе ізноў уводзіць рэгламентаваны продаж нават хлеба, бо пры такіх умовах можа яго не хапіць.

Варта ўжо цяпер над гэтым задумацца.

**М. Лук'янюк**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Так адпачывалі над морам гарцэры з бельскай „тройкі“ два гады назад — цяпер яны ўжо выпускнікі гэтай школы.*

## ГАРЦЭРЫ З „ТРОЙКІ”

Адным з найлепшых у Беластоцкай харугвіі з'яўляецца шчэп Саюза польскіх гарцэраў у Падставовай школе № 3 у Бельску. Шчэпам кіруе настаўніца гэтай школы Генрыка Кудзін.

Шчэп складаецца з шасці дружын зухаў і трох спецыялістычных гарцэрскіх дружын.

Гарцэраў з „тройкі“ ведаюць у многіх мясцовасцях краіны. Яны вызначаюцца ініцыятыўнасцю і багатай дзейнасцю.

Пачаткам поспехаў быў лагер гарцэраў з гэтай школы ў ліпені 1981 года каля Гіжыцка на Мазурах. Арганізавалася тады дружына воднікаў. Праз год яна выпрацавала адпаведныя нормы і ў летнім лагеры каля Кельц здабыла сваю спецыяльнасць.

У 1982 годзе арганізаваліся яшчэ дзве спецыялістычныя дружыны: прыродазнаўчая і турысцка-этнаграфічная. У чэрвені 1983 года бельскія гарцэры былі на злёце Беластоцкай харугвіі з нагоды 70-годдзя гарцэрства. Летам таго года ўдзельнічалі ў рэйдзе па Свентакшыскіх гарах, плылі ў парусным рэйдзе па Мазурах на трасе Гіжыцка — Вэнгажэва, а таксама шэсць асоб было ў лагеры ў ГДР. Зімнія канікулы ў 1984 годзе больш ста гарцэраў з „тройкі“ правяло ў горадзе Глогаў на захадзе краіны. Там пазнаёміліся і пасябравалі з мясцовымі гарцэрамі. Дзякуючы гэтаму сяброўству група 56 гарцэраў з Бельска правяла тры тыдні ў лагеры над морам каля Шчэціна, куды іх запрасілі ў сваю базу гарцэры з Глогава. Перад тым, яшчэ вясной 1984 года, прадстаўнікі ўсіх дружын з „тройкі“ былі запрошаны і выступілі ў тэлебачанні, у перадачы для гарцэраў „Круг“. У тым жа годзе на летніх канікулах адзінаццаць чалавек пабывала ў лагеры на поўдні ГДР.

Зімнія канікулы 1985 года сто гарцэраў правяло ў Лодзі.

Вядома, што кожны гарцэрскі лагер ці рэйд застаецца ў памяці на ўсё жыццё. Гэта цудоўная прыгода. Аднак найважнейшым з'яўляецца штодзённая, паслядоўная дзейнасць у гарцэрстве. Гарцэры працуюць пры пасадцы лесу, пры капанні бульбы, збіраюць макулатуру і іншую сыравіну. На зборах пашыраюць свае веды, развучваюць песні і вершы, займаюцца мастацкай самадзейнасцю.

Кожная з дружын мае свае выпрацаваныя формы дзейнасці. Найбольшыя традыцыі ёсць у 34 гарцэрскай дружыне воднікаў „Бом“, якую вядзе настаўніца Генрыка Кудзін. Дружына воднікаў трэці ўжо год дабіваецца звання штандаровай дружыны ў гуфцы, а гэта значыць, што лічыцца найлепшай у рэгіёне. Званне штандаровай мае ўжо вось другі год 32 дружына прыродазнаўцаў „Даследчыкі“ (апякуецца ёю настаўнік Мікалай Якубюк). У гэтым годзе штандаровай стала таксама і турысцка-этнаграфічная дружына „Хадакі“, якая працуе пад кіраўніцтвам настаўніка Васіля Нядзведскага.

У школе працуе некалькі гарцэрскіх самадзейных калектываў, якія часта выступаюць

(Працяг на стар. 10)



*Эля Томчук — вельмі актыўная гарцэрка і ўдзельніца шматлікіх дэкламатарскіх конкурсаў.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

Сяргей Грахоўскі

## АЙЧЫНА

Твайго цяпла, твайго святла і хлеба,
І шчырасці на кожнага стае.
Шчаслівы я, што пад высокім небам
Пралеглі сцежкі першыя мае.

Што ты люляла і складала казкі,
Што за руку ў дарогу павяла,
Што дабрату, і клопаты, і ласку,
І шчодрасць, і суровасць нам дала.

Ты гадавала, ты давала сілу,
Ад гора берагла сваіх сыноў,
А ў дні вайны над кожнаю магілай
Схілялася, але вяла ізноў.

Праз гора, праз пажары і пакуты
Вяла ў суровы, справядлівы бой.
І як нам ні даводзілася крута,
Былі мы неразлучныя з табой.

А ты была ласкавай і суровай,
І клопаты ў нас былі адны,
Калі ты часам і нахмурыш бровы,
На маці не пакрыўдзяцца сыны.

Табе заўсёды ў будні і у святы,
У дні трывог і ў шчасныя гады
Ўсё аддаём, чым кожны з нас багаты,
Каб харашэла і дужэла ты.

Тамара Тарасава

## АПЕРАЦЫЯ „ЯГАДКА”

Ужо цэлы тыдзень Міхась у лагеры. Яму падабаецца тут усё: футбольнае поле, дзе праводзяцца спартыўныя гульні, ракета, з якой можна ўбачыць увесь лагер.

Непадалёку возера. Міхась падоўгу можа сядзець на беразе, назіраць за каляровымі стракозамі з празрыстымі крыльцамі, за даўганогімі вадамеркамі, якія коўзаюцца па гладкай паверхні вады. Часам можна ўбачыць, як вынырне з вады прыгожы цёмна-карычневы жук-плывунец. Ой, як хочацца Міхасю злавіць прыгажуна! Але ў ваду не палезеш — строга забаронена. На возеры заўсёды дзяжурны.

Адным словам, лагернае жыццё цікавае. Дрэнна адно толькі: малышоў не бяруць у паход. З якой зайздрасцю паглядаюць яны на гарцэраў, якія з рукзакамі за плячыма выпраўляюцца ў падарожжа!

І вось аднойчы на ранішняй лінейцы важатая абвясціла:

— Сёння шосты атрад праводзіць аперацыю „Ягадка“.

Дзеці здзіўлена пераглянуліся. Ніхто не ведаў, што гэта такое, але ўсе адчулі незвычайнасць падзеі. Таямнічае слова „аперацыя“ выклікала ажыўленне. Пасля лінейкі гуртам акружылі важатую.

— Скажыце, што гэта за аперацыя? Што мы будзем рабіць?

— Наш атрад атрымаў адказнае даручэнне. Мы павінны назбіраць ягад на агульны лагерны кісель, — адказала важатая. — Той, хто назбірае больш за ўсіх, атрымае ўзнагароду.

—Ура! — радасна закрычалі дзеці. — Пойдзем па ягады!

Збіраць іх любілі ўсе. Кожнаму хацелася назбіраць як мага больш.

Хутка сабраліся, узялі вядро, шклянкі, торбачкі.

Далёка ісці не прыйшлося. Адразу ж каля лагера натрапілі на багатыя ягадныя мясціны. Лес напоўніўся дзіцячымі галасамі. Толькі і чулася:

— Ой, колькі ягад! Ідзіце сюды!

— І я многа знайшоў!

— А тут яшчэ больш!

Кожны збіраў у сваю пасудзіну, а потым высыпаў у вядро. Яно непрыкметна напаўнялася буйнымі сакавітымі чарніцамі.

Міхаська некалькі разоў ужо напоўніў сваю шклянку, а чарніц усё не змяншалася. Знайшоўшы добры куст, ён садзіўся ля яго і старанна абіраў да апошняй ягадкі.

Вось і зараз ён перайшоў да новага куста і толькі памкнуўся сарваць ягаду, як раптам адчуў што нешта востра кальнула ў руку. У гушчары пачуўся ціхі шорах. Нешта фыркнула і зашамацела.

Міхась з жахам выхапіў з куста руку.

— Ай! — усклікнуў ён і хацеў уцякаць, але цікавасць перамагла страх. Ён асцярожна разгарнуў галінкі і як жа ўзрадаваўся, калі ўбачыў шэранькі

(Працяг на стар. 10)

 ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ 

## ЯДАВІТЫЯ РАСЛІНЫ

Цудоўная пара — лета. Лугі і лясы цягнуць, клічуць да сябе ўсіх нас, цешаць вока цудоўнаю маладаю зяляніна, пахучыя кветкі, каляровыя моцна чырвоныя ягады ці розныя траўкі, пры дапамозе якіх можна выдаваць розныя мілыя гукі.

**Памятайце! Не кожную расліну можна браць у рот!**

Не кожную ягаду, хоць чырвоная і апетытная на выгляд, можна з'есці.

Вось што напісаў Міша С., які прыехаў з горада да бабулі ў вёску: „Я зрабіў дудачку з расліны, падобнай на парасонік. І ледзь не атруціўся: расліна аказалася ядавітай. Якія яшчэ расліны бываюць небяспечнымі і іх нельга нават чапаць?“

Па-першае, не прабуйце незнаёмых раслін на смак. Міша, праўдападобна, зрабіў дудачку з балігалова або веха ядавітага, іначай званага цыкутай. **Балігалоў** — гэта травяністая расліна сямейства парасонавых. Расце яна паўсюдна — на ўзлесках, уздоўж дарог і як пустазелле ў пасевах. Народныя назвы — пятрушнік, вобмег ядавіты, свістульнік. Расліна мае высокае сцябло, голае, з непрыемным мышыным пахам. **Вех** таксама часта можа пахнуць пятрушкай. Абедзве гэтыя расліны могуць выклікаць глыбокае атручванне. Ядавіты ўсе яго часткі.

Ці чулі вы калі-небудзь пра расліну **воўчае лыка?** Гэта таксама вельмі ядавітая расліна. Куст вышынёй да 1,5 метра расце ў цяністых вільготных лясах. Кветкі паяўляюцца яшчэ ў сакавіку ў пазухах леташняга лісця. Галінкі голыя. Плод — ярка-чырвоная касцянка, вельмі ядавітая. Таму гэтыя кусты і не ўжываюцца як дэкаратыўная расліна ў агульнадаступных месцах, напрыклад у парках. Але прывабная ягада можа звярнуць вашу ўвагу. Памятайце! Нельга яе прабаваць!

Вельмі атрутнай з'яўляецца таксама расліна з вялікай чорна-сіняй ягадай на высокай да 70 см тоўстай сцябліне. Гэта — **вароняе вока** ці **варанец**. Расце ён у нашых лясах і каля рэк. З пладоў вырабляюць фарбу, а карані выкарыстоўваюцца як лекавы сродак, выклікаючы ваніты і развальненне страўніка.

Вельмі шкоднымі з'яўляюцца таксама расліны з атрутным насеннем, як **беладонна** ці **блёкат**. Яны таксама растуць паўсюдна, а звяртаюць на сябе нашу ўвагу белымі або заружавелымі кветачкамі, асаджанымі на насенных карабочках. Растуць гэтыя расліны паўсюдна — каля жылля, на агародах, пустэчах, часам утвараючы нават зараснікі. Не чапайце гэтага насення, бо спроба яго можа скончыцца цяжкой хваробай. Лепей абыдзіце здалёк гэты страшны „ласунак“!

**Я. Ч.**



Ларыса Геніюш

### МАНЯ

*У Мані вочкі зіхацяць —*
*У дзённіку яе пяць, пяць.*
*Кажа Мані мамачка:*
*— Вельмі добра, Манечка.*
*Як зіма настане,*
*Купім табе сані.*

### ВАЛЯ

*Злосны воўк у цёмны вечар*
*Вывалак з хлява авечку.*
*Засталіся так без маткі,*
*Два маленькія ягняткі.*
*Плачуць:*
*— Ма-ма-а-а, бе-бе-бе,*
*Цяжка жыць нам без цябе.*

*А малая Валя*
*Іх пашкадавала.*
*Соску купіла,*
*Малаком паіла.*
*Калі вырасла трава,*
*Іх на пашу павяла.*
*Завязала банцікі —*
*Яны ў яе „францікі“!*
*Усё за ёю бегаюць:*
*— Валя, Валя, Валечка,*
*Ты ўжо наша мамачка.*

### ГАНУЛЬКА

*Бегла Ганулька — лёгкія ножкі*
*Ледзь-ледзь краналіся*
*Светлай дарожкі.*
*Хацела дзяўчынка*
*Злавіць матылька,*
*Ды кароценькая рука.*

*Матылёк узысь паляцеў,*
*Закружыўся над вішняй і сеў.*
*— Я б цябе, матылёк, злавіла,*
*Каб да ручак — два крылы.*

### ЗЯЗЮЛЬКА

*— Ку-ку, ку-ку, —*
*Кукавала,*
*Усю вясну пралятала*
*Зязюлечка ля сяла*
*І гняздзечка не звіла*
*Ні з лісточкаў,*
*Ні з галінак,*
*Ні з саломін,*
*Ні з пушынак.*
*Птушанятка ж хоча жыць.*
*Дзе яечка палажыць?*
*Палажыла салаўісе,*
*Палажыла вераб'ісе,*
*А адно яечка —*
*Дзятлам у гняздзечка.*
*Дзяцел носам: туп-туп-туп.*
*— Што такое?*
*Сын ці ўнук?*
*Усе дзеткі з доўгім носам,*
*А гэты адкуль — курносы,*
*Б'е малодшых,*
*Есць за трох,*
*А задзіра — не дай бог.*
*Радавалі,*
*Бедавалі,*
*Так і вырас — не пазналі.*
*І зязюля кукавала,*
*Але сына не прызнала,*
*Кажа:*
*— Я тут ні пры чым,*
*Гэты дзяцел — твой айчым.*

(Працяг са стар. 9)

## ГАРЦЭРЫ З „ТРОЙКІ“

на розных конкурсах. У гэтым годзе калектыў зухаў аказаўся найлепшым у фінале агульнапольскага конкурсу гарцэрскай песні.

30 мая гэтага года адбылася ў Варшаве сустрэча дзяцей з усёй краіны са Старшынёй Рады Дзяржавы прафесарам Генрыкам Яблонскім. Сярод удзельнікаў былі і прадстаўнікі гарцэраў з Беласточчыны, між іншым, з бельскай „тройкі“ — Эля Бэзюк, Ася Кудзін, Ёля Радзівонюк, Ася Місеюк, Ася Екацярынчук. 5 чэрвеня можна было іх зноў пабачыць у тэлевізійнай праграме „Круг“.

Закончыўшы пачатковую школу і стаўшы вучнямі беларускага ліцэя, многія гарцэры і далей застаюцца ў сваіх дружынах і працуюць памочнікамі дружынковых: Бася Артымовіч, Дарота Варульская, Гражына Себясевіч, Лена Соха, Эля Бэзюк, Славік Ігнацюк.

Цяпер гарцэры бельскай „тройкі“ зноў праводзяць свае цікавыя і вясёлыя канікулы.

**Янка Мордань**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 346724, Ростовская обл., Мясниковский район, совхоз 24, ул. Молодёжная, 6. Абрамовой Оксане. 15 год.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 5, кв. 65. Таах Оле. 5 клас.

* * *

СССР, 370147, г. Баку, 9 микрорайон, ул. Верхняя кольцевая, 46, кв. 13. Мосеян Белла. 12 год.

* * *

СССР, 150061, г. Ярославль, ул. Громова 26-122. Маркеловой Юлии.

* * *

СССР, 344095, г. Ростов-на-Дону, ул. Штахановского, 3, кв. 64. Чиммит Инне, 5 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Константиновская, 29, кв. 7. Белоусовой Виктории. 4 клас.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, 28„А“, кв. 74. Головатенко Андрею. 4 клас.

* * *

СССР, 346514, г. Шахты-14, Ростовской обл., ул. Пульного, 36, кв. 8. Кошелёвой Але. 3 клас.

* * *

СССР, 344113 г. Ростов-на-Дону, ул. Орбитальная, 66/2, кв. 21. Кренц Анна. 7 клас.

* * *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, ул. Грисенко, 76, кв. І. Каплун Марина. 4 клас.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты-15, ул. Коммунальная, 46 „А“. Шпак Лене, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 3-ці Загарадны пер., 7, кв. 1. Лена Зайцава. 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 15, кв. 54. Таццяна Кузняцова. 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв.76. Насця Баёўская. 3 клас.

(Працяг са стар. 9)

## АПЕРАЦЫЯ „ЯГАДКА“

клубочак!

— Вожык! — радасна гукнуў ён. — Хутчэй сюды!

Усе, хто быў блізка, кінуліся да куста.

Міхаська ўзяў дубчык і выкаціў вожыка на паляну. Але калючаму лясному жыхару гэта не спадабалася. Ён яшчэ мацней стуліўся і зачмыхаў носам. Трошкі паляжаўшы так, ускочыў на лапкі, і дзеці ўбачылі яго чорную вострую мордачку.

— Ой, які пацешны!

— І жывоцік бялюсенькі!

Дзеці разглядалі вожыка. Але варта было дакрануцца да яго вострых іголак, як ён адразу ж туліўся ў клубок.

Дзеці доўга не маглі нацешыцца. Забыўшыся на ягады, яны стаялі, пакуль не пачулі голас важатай

Набліжаўся абед. Трэба было вяртацца ў лагер.

—Давайце забярэм яго. Зробім жывы куток, як у нашым прадшколлі было, — сказаў Міхась. — Я ведаю, чым яго карміць.

Вярталіся вясёлыя ў лагер. Ягад было амаль поўнае вядро, а тут яшчэ такі трафей!

— А хто больш за ўсіх назбіраў? — пыталіся дзеці.

— А гэта вы самі павінны сказаць, — адказала важатая.

— Як? — здзівіліся дзеці. Кожнаму здалося, што ён больш за ўсіх назбіраў. — Мы ж ссыпалі ў адно вядро.

— Ведаю! — раптам сказаў Міхась. — Няхай кожны пакажа язык. У каго самы светлы, той больш за ўсіх і назбіраў.

Усе весела засмяяліся. Але ніхто не адважыўся паказаць язык. Збіраючы чарніцы, ніхто не мог устрымацца, каб не паспытаць. Елі, пакуль не задаволіліся.

Так і не вызначылі пераможцы. Але затое цяпер у атрадзе будзе свой жывы куток, а на полудзень кожны атрымае шклянку смачнага духмянага кісялю.

### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



З пададзеных кавалкаў складзі карцінку.



Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

З чаго смяюцца суседзі

# ДЗІЦЯ

Пецька пахіснуўся і ледзь не бразнуўся на падлогу.

— Асцярожна, сыночак, асцярожна! — паспеў падтрымаць яго Раман Рыгоравіч.

З другога боку, трымаючы сына за руку, тупала Ганна Кузьмінічна.

— Трэба ісці, міленькі, ісці! — упрошвала яна. — Правай ножкай... Зараз левай! Правільна. Разумнік!..

— А цяпер парожак пераступім, — падтрымаў Пецькаву стараннасць Раман Рыгоравіч. — Вось так...

Убачыўшы ложак, Пецька больш энергічна запрацаваў нагамі.

— Яшчэ крок! Яшчэ! — ужо ў адзін голас казалі Ганна Кузьмінічна і Раман Рыгоравіч.

— Уф-ф, — уздыхнула нарэшце з палёгкай Ганна Кузьмінічна, укладваючы Пецьку ў ложак.

— Дзякуй, дарагі, — прамовіў Раман Рыгоравіч. — У сцелечку... Але ж арыентацыю не згубіў...

Пецька хроп. А жонка з мужам з замілаваннем пазіралі на сваё дваццацігадовае „дзіця".

Уладзімір Данько



На раздарожжы.




## ВОДПУСК

— Якія ў цябе круглыя ружовыя шчокі пасля водпуску! Ты, пэўна, вельмі добра харчаваўся?

— Не, мне даводзілася кожны дзень надзімаць гумовыя матрацы!

## НЕ ПАДАБАЕЦЦА

Дзве работніцы сталовай размаўляюць між сабою:

— Проста бяда мне, калі дзяжурыць кухар Кажушка.

— Чаму?

— Зноў смачна наварыў сёння.

— Дык гэта ж добра. Наведвальнікі задаволены будуць. З апетытам паядуць.

— Яны дык паядуць. А што я сваім парасятам панясу?

## ХАЎРОННЯ НА ЛЕКЦЫІ

Гусак з трыбуны выступаў,
Жывёлам хатнім
Лекцыю чытаў
Пра навуковыя адкрыцці
і навіны.
Пра тое,
Што на свеце ёсць
дэльфіны,
Што дружбу і яны з людзьмі
вядуць...
Свіння тут рохнула:
— А што яны ядуць?
Свінні што ні кажыце —
А кругагляд яе —
ў карыце.

Уладзімір Мацвеенка



Made in Zadrypanka.



Ён слухаў, але не чуў.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Бейтс стаяў на тралейбусным прыпынку, калі да яго падыйшоў малады чалавек і спытаў, якая гадзіна. Бейтс на гэта ніяк не адрэагаваў. Хлопец паўтарыў сваё пытанне, Бейтс адвярнуўся. Моцна вылаяўся, незнаёмец пайшоў.

Чалавек, які стаяў каля Бейтса, не вытрымаў і пацікавіўся:

— Чаму вы не адказалі маладому чалавеку?

— Я скажу вам чаму, — сказаў Бейтс. — Дапусцім, я б яму адказаў. Тады ў нас магла б завязацца гутарка, і ён бы прапанаваў: „Давайце вып'ем па чарцы". Затым мы вып'ем яшчэ па адной і яшчэ. Потым я яму запрапаную перакусіць, і мы пойдзем да мяне дахаты, падсмажым сабе на кухні яешню з кілбасой. У гэты час увойдзе мая дачка, і ён закахаецца ў яе, а яна ў яго. Потым яны пажэняцца. Але калі хлопец не можа купіць сабе гадзіннік, навошта мне такі зяць?!

## РАДАСЦЬ

— Чула, Акім, — кажа жонка, — заўтра такі град будзе, што ўсё ў садах павыбівае.

— О! — радасна крыкнуў Акім. — Гэта ж добра!

— Чаму? — здзівілася жонка.

— У Дзямяна ж столькі груш ды яблык, што аж галлё гнецца, — кажа Акім.

— Дык і ў нас жа выб'е.

— Хай, — задаволена ўсміхаецца Акім. — Затое і ў яго нічога не будзе.

З „Весніка Задрыпоніі"

## НАРЭШЦЕ

Нарэшце ўдалося прыйсці на працу без спазнення інжынеру Агурчыку. Якое ж было яго расчараванне, калі вахцёр паведаміў, што сёння субота.

## ЗДЗІЎЛЯЮЧАЕ — ПОБАЧ

Яблычка ад яблыні недалёка падае, заўважыў Ньютан і адкрыў закон сусветнага прыцягнення.












## ФІРМА ГАРАНТУЕ

На фургонах адной кампаніі, што прыбірае смецце ў французскім горадзе Тулоне, красуецца такая рэклама: „Калі вы застанецеся незадаволенымі нашым абслугоўваннем, мы абавязваемся вярнуць вам удвая больш смецця, чым вывезлі".

## З БЯЗВЫХАДНАСЦІ — У ТУПІК

Пад дулам пісталета працаўнікі аднаго з такійскіх банкаў хутка прыкінулі, што ўласнае жыццё даражэйшае за 10 мільёнаў іен, і ўручылі гэту суму грабежніку. Але ў двух банкаўскіх службоўцаў страх не выбіў назіральнасці — яны прыкмецілі, што пісталет у нежаданага наведвальніка быў не сапраўдны, а забаўкавы. Абодва кінуліся ў пагоню і схапілі грабежніка.

Выявілася, што гэта — паліцай. Выявілася таксама і тое, што 42-гадовага ахоўніка закону Хіросі Нагаяту на злачынства падштурхнула не цяга да лёгкай нажывы, а бязвыхаднасць і адчай: ён не мог сплаціць доўг за жытло.



Часам праліваем чёдры, а апчаджаем кроплі.